№ 68 (4115)

2 верасня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## У Віцебску сутыкнуліся два МАЗы

*Вадзіцелі грузавікоў не пацярпелі.*



Адна з машын перавозіла лом каляровых металаў, другая – зерне. У выніку аварыі адзін з грузавікоў перакуліўся, і з бака пачало выцякаць паліва. Ратавальнікі, якія прыехалі на месца ДТЗ, пажару не дапусцілі.

# Мінску – 949 год!

## Адсвяткуем як трэба…



Мы ўсе вельмі розныя: узрост, прафесія, палітычныя погляды і гастранамічныя прыхільнасці, веравызнанне і філасофскія перакананні часта не даюць нам магчымасці адчуць сябе аб'яднанымі, кансалідаванымі. Але толькі не ў гэтае свята – Дзень горада Мінска. У гэтае свята мы – адзіныя, таму што мы – мінчане, мы – беларусы. Заўтра наш агульны дзень нараджэння. Мне здаецца, у гэтыя выхадныя многія, нават самыя безнадзейныя дамаседы і дачнікі, зменяць на некалькі гадзін свой звыклы графік жыцця і выйдуць на вуліцы сталіцы. У добрым гуморы і здароўі, з сем'ямі, сябрамі і калегамі – як той казаў, на пазітыве, на высокай хвалі любові.

У суботу і ў нядзелю ў Мінску на плошчах і вуліцах пройдуць масавыя гулянні. А як яшчэ мы можам адзначыць дзень нараджэння горада, якому спаўняецца – падумайце – 949 гадоў! Сярод сталіц краін-суседзяў Мінск – доўгажыхар, ён саступае толькі Кіеву.

Свята горада пройдзе ў цэнтры на пляцоўцы каля стэлы і Палаца спорту, на плошчы Свабоды ў Верхнім горадзе, таксама ў кожным раёне Мінска. Будуць працаваць палаткі з таннай ежай і напоямі, адкрыецца «Горад майстроў», адбудуцца сілавыя спаборніцтвы і мінскі паўмарафон. Увечары перад мінчанамі выступіць сімфанічны аркестр і ансамбль «Песняры». І, вядома ж, калі сцямнее, у небе ўспыхне велізарны салют.

А давайце нічога не прапусцім і пабываем усюды...

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## Обещают… обещать

Спикеру нижней палаты белорусского парламента Владимиру Андрейченко пришлось поднапрячься. В третий раз он баллотируется в Палату представителей, а потому довелось писать предвыборную программу. Застыдили мы его четыре года назад, на прошлых выборах, когда подловили на том, что бывший председатель Витебского облисполкома с избирателями общается копипастом – ничтоже сумняшеся свои предвыборные обещания разных годов просто абзацами дублирует. В этот раз пришлось господину Андрейченко исхитриться, чтобы изложить все то же самое, но другими словами.

Вот только что поставить себе в заслугу, если один из районов твоего округа – а ты третий (!!!) человек в стране – «красуется» в списке самых бедных? Чем оправдаться и что в очередной раз пообещать жителям этого самого Ушачского района, своим избирателям?

Андрейченко придумал.

Во-первых, давил на жалость.

*«Не скрою, решение баллотироваться в очередной раз кандидатом в депутаты далось мне непросто»*, – сказано в первой части программы.

Во-вторых, оправдывался: *делал, мол, все возможное.*

И в-третьих, обещал нечто невообразимо-непонятное.

Обещания – это вообще самое интересное в программах переизбранников – тех, кто уже славно потрудился над принятием законов, которые серьезно ударили по благосостоянию белорусов, но считает, что сделано мало, что надо еще.

Если говорить именно об Андрейченко, то он пообещал своим избирателям сосредоточить усилия на *«высокой политике»: «законодательном обеспечении», «реализации основных приоритетов и задач», «создании условий»* и так далее… В общем, до простых людей не снизошел. И даже не сумел скрыть, что ничего внятного и понятного сказать этим людям не может.

Но есть переизбранники вполне приземленные. Они разговаривают настолько конкретно, что доходят почти до шантажа.

Вот, например, Александр Иванович Сегодник, который баллотируется по Волковысскому округу. Открытый человек, прямой. Он без обиняков предупредил: *«Я достиг договоренности о том, что в 2017 году возобновится строительство лечебного корпуса Волковысской ЦРБ, начнется ремонт железнодорожного моста в районе станции Волковыск-Город. Для ОАО «Красносельскстройматериалы» буду добиваться на уровне правительства снижения задолженности за отгруженный цемент для строительства Белорусской АЭС»*. Вот именно так в своей предвыборной программе и записал.

То есть то, что государство разоряет завод, не расплачиваясь с ним, – это нормально. То, что строится так называемая новая президентская больница за сто с лишним миллионов долларов при наличии старой, вполне себе хорошей, а в это время в Волковыске из-за нехватки средств вынуждены приостановить строительство больничного корпуса для простых людей, – это нормально. Против этого депутат Сегодник выступать не намерен и не обязуется. Он просто обещает *«вопросы порешать»*.

Одним словом, выборы есть, а настоящих предвыборных программ у кандидатов от власти нет. Они дружно выступили с лозунгом «Я за все хорошее!»: за укрепление семьи, за мирное небо, за развитие инициативы, за асфальт во дворах и обустроенные детские площадки… Но никто – никто!!! – не пообещал проголосовать **против.**

Против:

– дальнейшего повышения пенсионного возраста;

– увеличения поборов и налогов;

– продолжения курса на ликвидацию социальных льгот для незащищенных слоев населения;

– сокращения финансирования социальной сферы – больниц, школ, детских садов, кружков, секций, клубов, библиотек;

– кабальной контрактной системы;

– неоправданно большого количества чиновников во властных кабинетах;

– огромнейших штатов спецслужб, колоссальных затрат на их содержание;

– ежегодного подкармливания за счет государственного бюджета «БРСМ» и других «карманных» общественных организаций;

– досрочного голосования во время выборов, что позволяет фальсифицировать результаты волеизъявления народа;

– того, что президент может занимать должность №1 пожизненно.

Они и не будут против всего этого. Они, если встанет вопрос, единогласно проголосуют за. Сомневаться в этом нет никаких оснований.

Но как можно идти к людям, смотреть им в глаза, говорить какие-то хорошие, как будто правильные слова, зная при этом, что даже не пискнешь в их защиту?

Скажут отобрать жилье у сирот – отберешь, скажут оставить больных без импортных лекарств – оставишь, будет команда голосовать за выселение нищих людей из квартир – проголосуешь, будет команда сэкономить на пенсиях, чтобы белорусы работали до самой смерти, – выступишь… О чем думают эти переизбранники, чем себя оправдывают?

О чем думал Владимир Андрейченко, когда написал *«Решение в очередной раз баллотироваться далось мне непросто…»*? Неужели был некий проблеск стыда? Или все-таки что-то другое?..

У НУМАР!

## Нарэшце паразумеліся…

Еду ўчора, 1 верасня, у метро. У вагон уваходзіць мама з малым хлопчыкам – святочна апранутым, відавочна ўсхваляваным. Пэўна, у хлапчаняці сёння незвычайны, адзіны ў жыцці такі дзень – "першы раз у першы клас".

Віншую сям'ю са святам, распытваю малога: ці спадабалася яму першая сустрэча са школай, што цікавага адбылося сёння, з кім паспеў пасябраваць?.. Хлопчык вельмі ўважліва, ва ўсе вочы глядзіць на мяне, услухоўваецца ў мае словы – і… маўчыць. Бачу: намагаецца нешта сказаць, але не можа.

– А дзіцятка ты маё! – нарэшце даходзіць да мяне. – Пэўна ж, ты, мой харошы, і слоўца сёння не пачуў па-беларуску! А можа, нават ніколі не чуў, хоць і нарадзіўся на гэтай зямлі…

Сэрца заходзіцца болем, і маці хлопчыка, адчуваю, крыху збянтэжана. Пачынае перакладаць мае словы сынку на рускую мову, і дзіця адразу заўсміхалася, стала ахвотна і радасна адказваць на мае пытанні.

Ім трэба было ўжо выходзіць. Я пажадала першакласніку быць здаровенькім, сардэчным, вырасці годным чалавекам і абавязкова пасябраваць з роднай мовай.

Мы цёпла развіталіся, паразумеўшыся нарэшце з дапамогай маладой мамы. Спадзяюся, пакуль што – з дапамогай.

**Ганна ПЕТРУШЭВІЧ, мінчанка.**

ЧУЛІ?

## У Мінску з'явілася таксі для багатых

Пра "мэтавую аўдыторыю" новай службы кажа ўжо яе назва – "Баварыя" (так называецца адзін з самых заможных рэгіёнаў Германіі). Новая служба пазіцыянуе сябе як таксі бізнес-класа. Усе кіроўцы апрануты ў строгія дзелавыя касцюмы. На выклік прыязджаюць толькі машыны BMW, выпушчаныя не раней за 2013 год. Кошт пасадкі ў машыну складае 5 рублёў. За кожны наступны кіламетр давядзецца заплаціць 85 капеек.

**Вадзім БРОННІКАЎ.**

СУД

## За забойства амерыканца – 10 гадоў зняволення

*Учора Баранавіцкі суд вынес прысуд мясцоваму жыхару, які забіў і расчляніў грамадзяніна ЗША Саламона Ясмана.*

Суд прызнаў яго вінаватым у забойстве, крадзяжы, а таксама крадзяжы важнага асабістага дакумента і пакаранне ў выглядзе 10 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Таксама асуджаны павінны выплаціць кампенсацыю маральнай шкоды жонцы і сыну забітага і кампенсацыю нанесенай шкоды і выдаткаў па аплаце юрыдычнай дапамогі. У даход дзяржавы канфіскаваны аўтамабіль "Опель Вектра" на якім мужчына вывез разрэзанае цела свайго прыяцеля.

Прысуд яшчэ не набыў законнай сілы і можа быць абскарджаны.

Як паведамлялася раней, на судзе абвінавачаны заявіў, што забіў амерыканца, бо той кепска выказваўся пра Аляксандра Лукашэнку і ўвогуле пра беларусаў.

БЕЗ ЦЭНЗУРЫ

## Як філосаф Уладзімір Падгол стаў «танкістам»

*Кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў выступіў на тэлеканале «Беларусь 3» у… бронекамізэльцы і танкісцкім шлеме.*




**Філосаф Уладзімір Падгол**, які балатуецца ў Мінску па Старавіленскай выбарчай акрузе №105, паведаміў з экрана тэлевізара, што з'яўляецца аўтарам рамана «Куля для прэзідэнта». Такі ж надпіс быў на яго бронекамізэльцы. Кандыдат ад Партыі БНФ заклікаў скасаваць дамову аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, а таксама неадкладна закрыць мяжу з Расіяй, адкуль паступаюць зброя і наркотыкі.

**– Гэта ваша ідэя выступіць у танкісцкім шлеме па тэлебачанні ці нехта параіў?** – пытаюся ў філосафа.

– Пачну з пачатку. Першая версія майго рамана "Куля для прэзідэнта" выйшла яшчэ ў 1997 годзе. Кніга была арыштавана і па сённяшні дзень знаходзіцца ў пракуратуры. Гэта самы доўгатэрміновы палітычны вязень у Беларусі. Пасля выходзілі і новыя версіі, але чытачы іх таксама не ўбачылі. Гэта дало мне падставу выйсці не так даўно на пікет у сталіцы таксама ў бронекамізэльцы і танкісцкім шлеме. Дарэчы, пасля пікета мы аднеслі ў Адміністрацыю прэзідэнта лісты кіраўніку краіны з прапановай, каб той узмацніў кантроль за перасоўваннем зброі і наркотыкаў на мяжы з Расіяй. Я і да гэтага адпраўляў лісты па пошце, але іх некуды перанакіроўвалі, таму ў мяне няма ўпэўненасці, што Лукашэнка іх бачыў. Хаця толькі ён вырашае, як кантраляваць мяжу. Таму, каб узняць публічна праблему, у той жа форме (шлеме і бронекамізэльцы) я пайшоў выступаць і на тэлебачанне. Гэта быў не столькі эпатаж, колькі спадзяванне, што да Лукашэнкі давядуць катастрафічную праблему, якую я ўзняў. Краіна захлынаецца ад наркотыкаў, якія пераважна ідуць з Расіі. Трэба біць у званы, грукацца ў дзверы, каб яшчэ і яшчэ раз засяроджваць на гэтым увагу. Вось і ўсё! І ніякіх падказак мне не было. Усё сыходзіла толькі з неабходнасці прывесці гэтую сітуацыю ў цывілізаванае рэчышча.

**– Чуў: каб пранесці амуніцыю ў тэлестудыю, вы распрацавалі цэлы канспіратыўны сцэнарый.**

– У тэлецэнтры я спакойна прайшоў надгляд, спакойна зайшоў у студыю… Праўда, у супрацоўнікаў БТ быў шок, калі ўбачылі ўсё маё "дабро". Я ж і 30-сантыметровыя кулі прынёс, а дакладней – іх імітацыю.

**– Кулі самі рабілі?**

– У мяне ёсць давераная асоба, ён – майстар на ўсе рукі. Таму, калі супрацоўнікі БТ іх убачылі, у іх быў шокавы стан, а мяне сустракаў кіраўнік службы бяспекі тэлецэнтра. І мне давялося прачытаць ім лекцыю і тлумачыць, чым адрозніваюцца паняцці "куля для прэзідэнта" і "куля на прэзідэнта". Калі яны пачулі, што "куля для прэзідэнта" азначае падарунак, то ніякіх пытанняў да мяне больш не было. Супакоіліся, нават дапамаглі мне апрануць амуніцыю. А напрыканцы папрасілі, каб я падпісаў цытатнік Лукашэнкі. Я і напісаў: "Каб чыталі і рагаталі".

**– А кіраўніка Белдзяржтэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзьку вы навошта хацелі паклікаць у студыю?**

– Я ж хацеў з ім паразмаўляць, каб ён не напалохаўся. Добра ведаў яго раней, Давыдзька нават мой раман браўся неяк чытаць, калі быў яшчэ дырэктарам Купалаўскага тэатра. Праўда, пасля гэтага некуды знік і пачаў мяне пазбягаць. Мы з ім разышліся і бачыліся затым толькі на дыпламатычных прыёмах.

**– Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч ахарактарызаваў вас пасля выступлення па БТ так: "наш беларускі Дыяген"…**

– Ведаеце, ёсць такая прымаўка: хоць гаршком назаві, толькі ў печ не стаў. Галоўнае, што я агучыў тыя праблемныя рэчы, на якія ўладам трэба звярнуць увагу. Вось сутнасць маёй акцыі. Я казаў, што ў нас страчана палітычная і эканамічная незалежнасць. Па сутнасці, страчаны вайсковы суверэнітэт, хаця ў Канстытуцыі запісана, што мы імкнёмся да нейтралітэту. Зараз стаіць задача адраджэння незалежнасці па ўсіх гэтых кірунках. Мая мэта была, каб гэта дайшло і да кіраўніка краіны, і да простых грамадзян. Хаця большасці беларусаў і выбары, і парламент, як кажуць, да лямпачкі.

**– Навошта вы назвалі тых, хто крытыкаваў ваша выступленне, дурнямі і дэбіламі?**

– Не тых, хто крытыкаваў, а хто мяне абразіў. Яны і на самай справе… Не напісалі ніводнага навуковага даследавання, а бяруцца разважаць… А мая акцыя – самая першая ў такім фармаце за ўсю гісторыю Беларусі.

Адным з тых, хто крытычна выказаўся пра выступленне Падгола, стаў палітолаг **Дзяніс Мельянцоў**. *«Гэта наглядны адказ на пытанне, чаму Лукашэнка да гэтага часу пры ўладзе. Суіцыдальны піяр Партыі БНФ»*, – напісаў палітолаг у сацыяльных сетках.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



ГОРКА!

## Выбары выбарамі, а вяселле – па раскладзе

*Два кандыдаты ў Палату прадстаўнікоў вырашылі згуляць вяселле за пару дзён да асноўнага дня галасавання.*

24-гадовая **Аліна Нагорная** і 26-гадовы **Максім Ціханаў** – актывісты руху "За Свабоду". Аліна – кандыдат у дэпутаты па Слуцкай выбарчай акрузе №67, Максім – па Вілейскай выбарчай акрузе №74. Святочнае мерапрыемства яны вырашылі зрабіць 9 верасня.

*«Ведаем, як у нас лічаць галасы, а таму хочам, каб на гэтых выбарах для нас і для нашых сяброў (некаторыя з іх таксама балатуюцца) адбылося хоць нешта прыемнае і вясёлае. Напрыклад, наша вяселле!»* – цытуе Аліну euroradio.fm.

